# Што далей?

Пасьля сьмерці забойцы мільёнаў, арганізатара народагубства, канцлягераў, паняволеньня, уся прэса дэмакратычнага сьвету адназгодна пыталася: хто-ж будзе ягоным спадкаемцам? Чакаць адказу на гэтае пытаньне давялося нядоўга. Спадкаемцам гэтым стаўся Маленкаў. І прэса ўсяго сьвету стаўляе сяньня ужо іншае пытаньне: што будзе рабіць новы дыктатар? Ці пойдзе ён і далей сьлядамі свайго настаўніка ці можа... будзе больш „дэмакратычны" ў сваіх пачынаньнях, скончыць вайну у Карэі, спрычыніцца да адпружаньня цяжкога міжнароднага палажэньня, а можа?... і гэтак бязконца. Адзін час газэты толькі й пыталіся: „што скажа Маленкаў у сваёй першай прамове? Адначасна, розныя палітыкі й журналістыя навет пачалі былі раіць прэзыдэнту Айзэнгаўэру й Чэрчылю спаткацца з новым валадаром замкнёных у савецкую турму народаў, зьявіліся былі адтыкулы з загалоўкамі: „Айзэнгаўэр — Чэрчыль — Маленкаў".

Чытаючы ўсе гэтыя пытаньні, разважаньні ды пажаданьні, мімаволі стаўляем яшчэ адно пытаньне: дзе й калі мы жывем, што за палітыкі сяньня на сьвеце? Калі-б гэтак як пішуць аб міжнародным палажэньні ды аб савецкіх справах сяньня, пісалі й разважалі скажам, у дваццатых гадох, — гэта было-б яшчэ зразумелым. Бальшавізм быў тады усьцях загадкай, зьявішчам новым і мала зразумелым. Але пасьля ягонае 35-цёх гадовае крывавае практыкі, даводзіцца сказаць толькі адно: дэмакратычны сьвет блізу ня мае сяньня запраўдных палітыкаў, людзей, якія маглі-б цьвяроза думаць, разважаць і паводле гэтае развагі дзеіць.

Бо вось, што сталася напрацягу адно колькіх дзён „урадаваньня" новага дыктатара: чэскія самалёты зьбілі амэрыканскі самалёт над прастораю амэрыканскае-ж зоны, савецкія самалёты зрабілі тое-ж з ангельскім самалётам над ангельскаю зонаю, страляючы гэтак доўга,аж усе сябры ангельскае каманды, якія выкінуліся з падбітага самалёту на парашутах, былі забітыя, ды абстралялі амэрыканскі самалёт на Далёкім Усходзе. Амэрыканскія й ангельскія улады, злажылі, ведама, войстрыя ноты пратэсту супроць гэтых нячуваных у міжнародных дачыненьнях гвалтаў, але як і заўсёды, атрымалі адказы, што віна па баку самых ахвяраў. Яны й лялі над савецкай тэрыторыяй, і страляць пачалі першыя ды... іншая гэткая-ж нахабная бязглузьдзіна.

Здавалася-б, адказы гэтыя павінны былі-б быць якраз і вымоўным адказам на настырлівае пытаньне дэмакратычнае прэсы: а што будзе далей? Кажнаму-ж, хто хоць крышку разьбіраецца ў справах, ясна, што згаданыя нялюдзкія напады на амэрыканскія ды ангельскія самалёты не маглі быць выкананыя без належных інструкцыяў і загадаў згары. Да таго-ж, не магло ўзяць на сябе адказнасьці за іх і ніякае мясцовае, ніжэйшае „начальства". Гэта мог быць адно загад Крамля, загад новага дыктатара „памацаць" крыху заходніх суседзяў, побач з гэтым здабыць легітымацыю цьвёрдага, бясстрашнага й безагляднага „правадыра", годнага свайго „вялікага настаўніка", тым балей, што было гэта напярэдадні сэсіі Вярхоўнага Савету. І выпадкі паказалі, што Вярхоўны Савет належна ўшанаваў гэтую легітымацыю, аднагалосна зацьвярджаючы Маленкова на новым становішчы. Памінаючы ўжо Сталінаву навуку, новы дыктатар добра зразумеў і настроі сваіх партыйных сяброў: толькі крывёю, толькі тэрорам і гвалтамі можна працерабіць сабе ў Расеі шлях, здабыць сабе аўтарытэт. І перад гэткаю пастановаю справы новым дыктатарам краіны канцлягераў ды нявольніцтва схілілі свае галовы сотні й тысячы меншых сатрапаў, бо атрымалі належную санкцыю на далейшы тэрор, на далейшыя гвалты. У выніку — шмат, вельмі шмат крыві будзе яшчэ праліта ў страшной падсавецкай вязьніцы.

Але й бяручы зь іншага боку, — новы дыктатар нядрэнны вучань свайго „бацькі". Бо вось, ён выступіў з прамовай і заявіў, што... СССР можа вельмі добра „супрацоўнічаць" з капіталістычным сьветам. І гэта ён паўтарыў ужо ня раз, ці два. Ці-ж дзіва, што непапраўныя заходнія палітыкі прыемна хвалююцца, а „выдатныя" журналістыя ня стомяцца прасіць у сталінавага спадкаемцы інтэрв'ю, ды друкаваць артыкулы з тытуламі: Айзэнгаўэр — Чэрчыль — Маленкаў? Гэта нічога, што Зорын у Задзіночаных Нацыях і далей адкінуў плян заканчэньня вайны ў Карэі, гэта нічога, што Маленкаў даў загад „прашчупаць" настроі дэмакратычных дзяржаваў, зьбіваючы іхныя самалёты й, расстрэльваючы іхныя каманды — ён-жа сказаў, што хоча міру! Запраўды, нездарма ў свой час Ленін сказаў: „таварышы, не глядзеце на нашую слабасьць, глядзеце на слабасьць капіталістых!"

Нас тут цікавіць яшчэ й іншае пытаньне. Колькі дзён пасьля свайго падарожжа ў Маскву неспадзявана памёр, маючы 57 год, дыктатар Чэхаславаччыны Готвальд. Паводле паведамленьняў, яму добра намылілі былі там галаву за правал ягонае пяцігодкі, у выніку чаго кантрыбуцыя Маскве ня была як належыцца выплачаная. Трэба думаць, што неўзабаве гэтаксама неспадзявана памруць яшчэ й іншыя „пастаўшчыкі двара яго вялічаства" — маскоўскага дыктатара. Выснаў з гэтага ясны: далейшая эксплятацыя калёніяў, ці як яны сяньня завуцца краінаў — сатэлітаў, памацненьне русыфікацыі і падрыхтоўка да вайны. Пачнецца, відаць, новая хваля тэрору, паляцяць галовы „касмапалітаў" ды „інародцаў" — гэтых „нутраных ворагаў", аб якіх прыгадаў ужо быў кагадзе ў сваёй прамове новы дыктатар Маленкаў.

Але аб гэтым прэса, асабліва прэса расейскае эміграцыі, маўчыць, хоць і яна стаўляе пытаньне: „што будзе далей?" І гэта зусім зразумела, бо згаданыя пляны Маленкова дзіўна супадаюць парою із плянамі й праграмамі блізу ўсіх тутэйшых расейскіх партыяў, пачынаючы ад манархістых і канчаючы на сацыялістых. Адзінства поўнае й нязвычайна цікавае, зусім сугучнае й з паглядамі нябожчыка архіяп. Бэнэдыкта, які ў сваім часе пісаў у сваім „Православном Белоруссе', што трэба рубаць галовы нацыяналістых, сэпаратыстых ды іншых „расчленителей". Праўда, яму рубаць не давялося, але гэта зробіць за яго цяпер Маленкаў.

Сярод розных мяркаваньняў і пажаданьняў расейскае эміграцыі былі й гэткія: „Можа знойдзецца сярод 200 мільёнаў рускіх (!) нейкі герой, які паўстане й вызваліць Расею ад бальшавікоў"? Не ўваходзячы ў палеміку з гэтай бязглузьдзіцай што да 200 мільёнаў „расейцаў", хочам зрабіць адну заўвагу: „Расею" ад бальшавікоў ня будуць, вызваваляць ніякія „расейскія героі", бо яны адно будуюць і ўзмацняюць яе пад правадырствам сталіных, маленковых, вышынскіх ды кампаніі. Тое, што расейская эміграцыйная прэса называе „Расеяй", будзе вызваленая якраз іншымі героямі, якім Бэнэдыкты жадаюць, а Маленковы рубаюць галовы.

На пытаньне-ж: што будзе далей, — хіба неўзабаве адкажа час.

## ЁН УВАСКРОС — УСКРЭСЬНЕ І ЯНА!

„Хрыстос уваскрос"! Бо калі ўваскрос Хрыстос, чаму ня мае ўскрэснуць і Яна, нашая Бацькаўшчына?

Трэба толькі моцна, якнаймацней верыць у гэта, найшчырэй жадаць, а таксама самаахвярна на гэта працаваць. Ні сваркі, ні інтрыгі з аднаго боку, ні ленасьць да абыякавасьць з іншага, — ня спрычыняцца да прыйсьця нашага Вялікага Сьвята Уваскрашэньня. Як і на ўсё ў жыцьці, на Бацькаўшчыну трэба зарабіць, як трэба здабываць, будаваць дзень па дні й цаглінка па цаглінцы, забываючыся на сябе, на вымогі штодзённасьці, на ўсё, думаючы адно аб Ёй.

І калі мы знойдзем у сабе досыць гарту, сілы й ахвярнасьці здабыцца на гэтую, зусім нявялікую, раўнуючы да цудоўнае мэты — Незалежнасьці Беларусі — ахвяру, надыйдзе неўзабаве дзень, калі разам з нашым пэтам і мы зь нясьцерпнаю вялікоднай радасьцяй нарэшце крыкнем на ўвесь сьвет:

— Зь Вялікім Сьвятам вінщую, зь Вялікім Сьвятам, Вялікі Беларускі Народ!

— Хрыстос Уваскрос!

# Няудача з выбарамі у Беларусі

„Манчэстэр Гвардыян" — ведамы штодзённік ангельскіх лібэралаў, напярэдадні хваробы й сьмерці Сталіна (3.111.53 году, Нумар 33.184) падаў вельмі цікавую зацемку аб выбарах у мясцовыя урады на Беларусі.

Успамінаючы аб выбарах у Савецкім Саюзе наагул, якія нязьменна даюць вынікі галасаваньня на 99,99% па загадзя выстаўленым, адзіным да таго-ж, сьпісе кандыдатаў, карэспандэнт ангельскае газэты далей піша:

— Але ня гэтак дзеецца ў Беларусі. У мясцовых выбарах, праведзеных тутка ў мінулым тыдні, паводле радыяперадачы з Менску, сталіцы рэспублікі, здарылася здаецца, нешта гэткае, чаго яшчэ не здарылася ў гісторыі савецкіх выбараў наагул. Радыё падало:

„Вызначаныя кандыдаты не атрымалі абсалютнае большыні й ня былі выбраныя ў мясцовыя саветы у чатырох раёнах. У гэтых раёнах будуць праведзеныя новыя выбары паводле выбарнага права, устаноўленага для мясцовых выбараў у Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы".

Як дагэтуль, нічога ня было сказана аб прычынах, чаму кандыдаты на згаданых „выбарах" праваліліся, не атрымаўшы вымаганае бальшыні галасоў? Ясна, што яны ня мелі ніякіх контр-кандыдатоў, як гэта скрозь і ў кажных выбарах вядзецца ў Савецкім Саюзе. Ці было гэтае нябывалае здарэньне спрычыненае нязручнымі агітатарамі, якім не ўдалося загнаць дастатковую колькасьць выбаршчыкаў у выбарчыя пункты?

Калі гэтак, яны далі вельмі паважны „прамах". Бо справа блізу пэўная, што сам Сталін заждае пацікавіцца гэтым выпадкам. Судзячы з паведамленьняў савецкае прэсы, Сталін-жа быў якраз першым кандыдатам выбарчага сьпісу ў кажнай вёсцы, раёне, месьце й акрузе, у кажным савеце працоўных дэпутатаў у гэтых нядаўных выбарах.

Справаздачы сьветчаць, што гэта ня здарылася Сталіну яшчэ ніколі. Пэўне, яму будзе вельмі крыўдным і гэткая няўдача й недавер да яго, што сустрэлі яго кагадве ў Беларусі... А можа ён адпусьціцца й даруе...

Для большага кантрасту правалу выбараў у некаторых раёнах Беларусі, „Манчэстэр Гвардыян" падае узяты з савецкіх „Известий" абразок з галасаваньня ў Менску, дзе 72-гадовы стары выяўляе сваю радасьць і шчасьце, што яму яшчэ раз давялося галасаваць за „любімага бацьку й настаўніка працоўных, за Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна"...

Зацемка ангельскае газэты канчаецца іранічнай заўвагай:

А можа т. Сталін раззлуецца якраз на гэткую зраду тайны выбараў старым дзядзькам, які, спавядаючыся на выбарчым пункце з таго, за каго ён галасаваў, пагвалціў 109 пункт Беларускае Канстытуцыі?

**С.**

## Што за „Саюз Журналістых"?

Др. Я. Станкевіч і сп. А. Адамовіч просяць нас зьмясьціць на балонках нашае газэты наступнае:

— На зарубежніцкім сьвяткаваньні Дня Незалежнасьці, 22-га сакавіка г. г. у Нью Ёрку, было прачытанае прывітаньне ад нейкага саюзу беларускіх журналістых з Мэспэту.

Мы ведаем, што ўлетку 1951 г. на сходзе журналістых у Нью Ёрку быў выбраны Прэзыдыюм Беларускага Саюзу Журналістых, аднак, гэтая арганізацыя ня мела ад таго часу ані аднэй зборкі, а таму падобнае пастановы ніколі ня выносіла.

Сябры згаданага Беларускага Саюзу Журналістых, сп. А. Адамовіч — Заступнік Старшыні СБЖ і сябра Рэвізыйнае Камісіі др. Янка Станкевіч гэтым паведамляюць, што яны ня ведаюць, якія гэта журналістыя віталі зарубежнікаў 22-га сакавіка й да ніякага такога „Саюзу Журналістых", што вітаюць іх — не належаць.

ВЫПІСВАЙЦЕ, ЧЫТАЙЦЕ І ПАШЫРАЙЦЕ ГАЗЭТУ „БЕЛАРУС".

# Баяздольнасьць Савецкай Арміі

(Працяг)

Вось паводле гэткіх камунікатаў жыхарства Савецкага Саюзу й стварала сабе абраз запраўднае вайны й шчыра верыла у вялікую баяздольнасьць чырвонай арміі. Гэтую веру вельмі падмацоўвала паважная колькасьць „палонных", якія дзень у дзень гналіся у Савецкі Саюз. На справе, — гэта зусім ня былі ваеннапалонныя. Як я ўжо ўспамінаў вышэй, гэта былі людзі, пакліканыя польскімі ўладамі у армію й якія прыбылі на зборныя пункты, але польскае арміі тут ужо не засьпелі. Людзі гэтыя, цалкам дэзарыентаваныя, ня ведалі што рабіць, ці чакаць якога загаду, ці варочацца да хаты? З гэтага й карысталася „геройская савецкая армія" і гнала людзей у Савецкі Саюз, дзе іх пазьней завозілі ў канцлягеры, у Крывы Рог, ці, пераважна, на далёкую поўнач, дзе яны мусілі цяжка працаваць. Афіцэраў-рэзэрвістых выдзялялі ў асобныя лягеры, каб зьвезьці пазьней у Катынь і там забіць.

Савецкая прапаганда загадзя была падрыхтаваўшы чырвонаармейцаў да таго, што Савецкі Саюз мусіць заняць Заходнюю Беларусь ды Украіну, каб „вызваліць адзінакроўных братоў сваіх з пад панскага ярма". Як толькі чырвоная армія займала якое нашае мястэчка ці вёску, — усьлед жыхарства зганялася на мітынг. Тут палітрукі апісвалі ў найшырэйшых колёрах „шчасьлівае жыцьцё" савецкіх людзей і гэтта-ж прапанавалі „падтрымаць" згары укладзеную рэзалюцыю падзякі „вялікаму Сталіну" за „вызваленьне". Гэткімі „аднагалосна" прынятымі рэзалюцыямі савецкія газэты былі даслоўна ў тыя дні перапоўненыя.

Але, сутыкаючыся із жыцьцём Заходняй Беларусі, самі чырвонаармейцы ставаліся ахвярамі іншае прапаганды — прапаганды жыцьця, міжвольна параўноўвалі жыцьцёвы ўзровень нашых вёскаў і местаў із савецкімі ды пачыналі адплюшчваць на праўду вочы.

А некаторыя навет, вельмі асьцярожна, баючыся, прызнаваліся нашым людзям у жудаснай савецкай запраўднасьці, галіцэ й голадзе.

Заваяваўшы гэткім „геройскім" спосабам Заходнюю Беларусь ды Украіну й „вызваліўшы" іх, як казалі нашыя сяляне, „ад масла, сала, хлеба, а навет бульбы", „непераможная" Чырвоная армія не супачыла, бо Крамлёўскім уладаром пачала перашкаджаць супакойна спаць вольная суседняя Фінляндыя.

У лістападзе 1939 году Савецкі Саюз пачаў вайну і зь ёю. Перад пачаткам вайны, у Маскве быў створаны адмысловы Фінскі камуністычны ўрад. Заданьнем Саветаў было: заваяваць Фінляндыю, пасадзіць у Гэльсінках згаданы ўрад ды даручыць яму згуляць яшчэ адну камэдыю „дэмакратычных выбараў", гэтым разам у Фінскі Сойм, прычым гэты „аднагалосна" выняс-бы пастанову аб далучэньні Фінляндыі да СССР. Адным словам, яшчэ раз мела быць паўторана тое, што было зроблена ў Заходняй Беларусі ды Украіне.

Але, памінаючы ўсю хітрамудрасьць Сталіна, Савецкі ўрад гэтым разам моцна памыліўся. Малы, але запраўды геройскі фінскі народ патрапіў даць сталінскім гордам ня горшы адпор, чымся невялікая старадаўная Афінская рэспубліка дала была некалі вялізарным азіяцкім гордам Ксэркса.

Не ад рэчы будзе затрымацца крыху на геаграфічна-вайсковым палажэньні Фінляндыі і для лепшага зразуменьня ейных абаронных магчымасьцяў, параўнаць яго з магчымасьцямі якой-колечы іншай дзяржавы, што сталася ахвяраю бальшавіцкае агрэсіі, прыкладам, з абароннымі магчымасьцямі Польшчы.

Даўжыня польскае мяжы з СССР з поўначы на паўдня станавіла нешта каля 1500 кілёмэтраў, даўжыня мяжы зь Нямеччынай — каля 1900 кіл. На ўсім працягу як усходняе гэтак і заходняе мяжы, прымежная прастора была прыгодная да ваенных апэрацыяў. Апрача гэтага, як усходні, гэтак і заходні суседзі Польшчы былі магутнымі гаспадарствамі, варожымі да яе. Паводле апошняй статыстыкі, праведзенай незадоўга да 1939 году, у Польшчы лічылася 33 мільёны жыхарства. Гэткім чынам, каб Польшча мела магчымасьць правесьці поўную мабілізацыю, яна магла-б павялічыць свае армію адно да трох мільёнаў чалавек, у той час, як Нямеччына, паводле тэарэтычных аблічэньняў, магла паставіць армію да васьмёх мільёнаў чалавек, а СССР — да васямнаццацёх мільёнаў. Ясна, што бяручы на увагу даўжыню дзяржаўных межаў і нясумернасьць людзкіх рэзэрваў, не гаворачы ўжо аб тэхнічным узбраеньні, абарона Польшчы была блізу немагчымая.

Фінляндыя, наадварот, мела заходнюю й паўночную мяжу цалкам забясьпечаныя. Усходняя-ж ейная мяжа ад поўначы да Ладаскага возера праходзіла паўз лясістую й балацяную мясцовасьць, зь вельмі рэдкім жыхарствам, нязадтную улетку да ваенных апэрацыяў дзеля непраходных імшараў да дрыгвы, а ўзімку — з прычыны глыбокіх сьнягоў ды бездарожжа. І толькі адрэзак фінскае мяжы на паўдня ад Ладаскага возера да Фінскае затокі, даўжынёю ў шэсьцьдзесят кілёмэтраў, быў прыгодны да ваенных апэрацыяў. Аднак, і гэтая прастора была парэзаная равамі й парослая лесам.

Усяго жыхарства было ў Фінляндыі да двух мільёнаў. Навет правёўшы поўную мабілізацыю, яна не магла паставіць арміі большае, чымся дзьвесьцесьцячаў жаўнераў. Як на сяньняшнія ўмовы, гэта сьмешна малая лічба. Фінскі генэральны штаб даскапала разумеў гэта. Дакладна разумеў ён і тое, што небясьпека з усходу пагражае Фінляндыі адно на згаданым ужо невялікім паўдзённым адрэзку ейнае мяжы паміж Ладаскім Возерам і Фінскаю затокаю. Таму тутка была пабудаваная абаронная лінія. Як падае ў сваіх успамінах галоўнакамандуючы фінскай арміяй маршал Маннэргэйм, умацаваньні гэтае абаронные лініі складаліся з апрычоных абаронных пунктаў, якія маглі ствараць, у разе патрэбы, бесперапынную агнявую заслону. Як падае той-жа маршал Маннэргэйм, Саветы кінулі былі на Фінляндыю адразу 28 дывізіяў, лічачы на тое, што аднэй сваёй масай яны правруць лінію абароны між Ладаскім возерам і Фінскай затокай, здабудуць сталіцу Гэльсінкі й змусяць Фінляндыю капітуляваць. Аднак, як неўзабаве выявілася, гэтае савецкая людзкая маса сустрэлася ад самага пачатку із супраціўам, якога Саветы ніколі не спадзяваліся. Фінская армія падпушчала ворага вельмі блізка да сваіх умацаваньняў, а тады даслоўна касіла яго жорсткім артылерыйскім ды кулямётным нагнём. Шматлікія спробы Чырвонае арміі здабыць фінскую абаронную лінію даўгі час канчаліся поўнай няўдачай. У рэшце рэштаў савецкае каманданьне было змушанае спыніць атакі й павялічыць склад свае арміі да 45 дывізіяў ды трох тысячаў танкаў. Агулам, у другой палове вайны саветы сьцягнулі былі на фінскі фронт да мільёну байцоў. Гэтая вялізарная людзкая маса, танкі й артылерыя ды іншае ваеннае абсталяваньне былі згрудаваныя на вузкім пасьме даўжынёю ў 60 кіл.

Аднак, толькі пасьля прыблізна двумесячных нясупынных атакаў фінская абаронная лінія была нарэшце коштам вялікіх ахвяраў у людзях прарваная й Выбарг здабыты. У сакавіку 1940 году Фінляндыя фармальна запрапанавала саветам мір, на самай-жа справе гэта саветы, страціўшы вялізарную колькасьць свае арміі, капітулявалі перад Фінляндыяй.

(працяг будзе)

**Ф. Кушэль.**

